ISSN 5172

*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! — К. Каліноўскі*

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!



# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў
ZVAZAJ' Veterans quarterly, published by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans.
Canada Post: 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont., M4K 1C2
U.S. Post: Assn of Byelorussian American Veterans, 9 River Rd., Highland Park, N.J. 08904, U. S.

Год 13 Верасень, 1987 Нр. 3 (47)

## СЛАВА ЎСЯВЫШНЯМУ !




Налета маем тысячагодзьдзе хрысьціянства Беларусі. Зьмяшчаем прысьвечаную юбілею адмысловую эмблему, якую ласкава выканала, на просьбу Парафіяльнай Рады БАПЦ у Тароньце, наша выдатная мастачка Тамара Стагановіч-Кольба. Ёй за гэта ад нас усіх падзяка, а сама эмблема, надрукам на канвэртах, прыгадае сваім і чужым вялікую гістарычную дату, калі хрысьціянства прыйшло ў Беларусь.

Ня гэтта нам, — зь недахопу месца, — пералічаць якія духовыя й культурныя скарбы хрысьціянства дало нашаму народу. Постаць Хрыста — увасабленьне найвышэйшае маралі, ахвярнасьці й любові й сяньня зьнічам стаіць у канчатковым змаганьні з Сатаной. Дзіва няма, што людагубы, сяньня згуртаваныя вакол ілжывай ідэі марксізму, якая нясе нянавісьць і зьнішчэньне ўсяму добратворчаму, ня могуць даць паняволеным людзям і народам свабоды сумленьня й веры.

У Беларусі акупацыйны рэжым вынішчыў духавенства й міліёны вернікаў-хрысьціян, зганьбаваў ці зруйнаваў бальшыню сьвятыняў. Адылі й сяньня гэты антынародны рэжым, быццам той Дон Кіхот, змагаецца з прывідамі. Цытуем зь менскай газэты "Літ. і Маст." артыкулу К. Тарасава, за 3.7.1987 г.: **»Аб'ядназньне віцебскіх маладых краязнаўцаў »Сузор'е« ўласнымі сіламі ў вольны час ачысьціла ад сьмецьця, прывяло ў прыстойны выгляд руіны былой Усьпенскай царквы. І вось, калі яны гэта зрабілі, міліцыя з дазволу гарвыканкома... загнала туды на пастой статак бычкоў. Як растлумачыць такі зьдзек з добрай справы маладых людзей?»**

"Такі зьдзек" лёгка растлумачыць. Людзі, што адказныя за аварыю АЭС у Чарнобылі, што ўжо вынішчылі больш міліёну людзей у сямігадовай вайне ў Афганістане, што трацяць большасьць народнага дабра на ваеншчыну, каб ажыцьцявіць ідэю нянавісьці й вынішчэньня ў цэлым сьвеце, — гэтыя ведаюць што робяць. Дый як-жа тут ім цярпець! Маладыя энтузіясты, *узгадаваныя пад савецкай бязбожнай уладай,* ачышчаюць царкоўныя руіны, бо яны дбаюць пра народ, ягоную веру, зганьбаваныя помнікі. І дзіва няма, што той прыказачны чорт, каторы крыжа баіцца, зьдзекам рэагуе.

Тое, што Сатана баіцца навет адноўленых руінаў царквы, гаворыць многае, ды найбольш тое, што ніякаму злыдню ня ўдасца выкараніць веры ў Бога ў нашага народу. Пасьля гэтага можна было-б закончыць рытуальным "Амінь". Але яшчэ адна прыпіска: заклікаем нашых суродзічаў удома й па цэлым сьвеце годна адзначыць 1000-ныя ўгодкі ад прыходу на нашыя землі Вялікай Праўды й Вялікага Збаўцы. Слава Яму, бо толькі зь Ім Сатану пераможам!

*К. Акула*

# ШТО НАВЕЮЦЬ НОВЫЯ ВЯТРЫ...

*Ад пачатку свайго выхаду ўканцы 1974 году, наш часапіс галоўную ўвагу аддаваў матар'ялам зь беларускай вайсковай і агульнай гісторыі, хронікі жыцьця былых беларускіх вайскоўцаў на эміграцыі. Менш увагі, зь недахопу месца, давалася падзеям у нашай, Маскоўшчынай паняволенай, бацькаўшчыне.*

*У гэтым нумары лічым патрэбным скіраваць увагу чытачоў на апошнія вятры запачаткаванай Гарбачовым "галоснасьці" й "перабудовы", канкрэтна: як гэныя вятры ўплываюць на жыцьцё ў паняволенай Беларусі. Аналізуючы скупыя весткі з адлегласьці, цяжка меркаваць, ці гэта вятры пераходныя, ці набяруць сілы... Пакуль што туман яшчэ густы, але ўжо чуваць цьвярозыя й рэзкія галасы раней адурманеных і запалоханых людзей.*

*Паэты й пісьменьнікі перадусім, як нам ведама зь мінулага, выражалі ў Беларусі новыя зрухі, калі ня голас народу. Таму й цяпер варта прыслухацца нам, што гавораць творчыя літаратары на бацькаўшчыне, тыя, каторым дарагая беларуская культура, яго мова, што дбаюць пра лепшую нацыянальную будучыню.*

*Матар'ялы бяром з нумару 24-га, за 12.6.1987 г., менскае тыднёвае газэты "Літаратура і Мастацтва". Ён зьмяшчае выказваньні беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў з пленуму управы СП БССР, што адбыўся сёлета ў пачатку чырвеня. Перадаём найбольш, на нашу думку, характэрныя вытрымкі. Жырны шрыфт наш. Спадзяемся, што чытачом ведамае выражэньне Жоржа Орвэла* newspeak. *Гэта выкрыўленае, згоднае зь* **вялікай ілжой** *значэньне зваротаў і слоў, якое ўвялі таталітарныя рэжымы ў мову. Спадзяемся, што камэнтары зробяць самі чытачы.*

Рэдакцыя "Зважай"

**МАКСІМ ТАНК:** На крытычным фронце нашай літаратуры ўсё яшчэ адчуваецца пэўная зьбянтэжанасьць перад новымі зьявамі. Зацягнулася й зьняменьне крытыкі. Яно пачалося ў першыя пасьля вайны гады, калі ёй прадпісвалася, якой яна павінна быць. Як вядома, гэта рэглямэнтаваная крытыка нарабіла ў свой час шмат шкоды нашай літаратуры, калі сустракалася ў штыкі так званая "акопная праўда", і **Васіля Быкава намагаліся выбіць з творчай каляі;** калі спробу Аляксея Кулакоўскага ў аповесьці "Дабрасельцы" выставіць напаказ і асьмяяньне бюракратызм у самых нізавых эшалонах Савецкай улады **расцэньвалі як ачарненьне рэчаіснасьці;** калі творча сьмелы, прынцыповы рэдактарскі талент Васіля Віткі быў палічаны **нясумяшчальным з пасадай галоўнага рэдактара »Літаратуры і мастацтва».**

Тут можна было-б прыгадаць і тое, што ў свой час была зьнята з рэпэртуару купалаўцаў адна з выдатнейшых п'ес К. Крапівы "Мілы чалавек"; прыгадаць, як рэдагаваліся творы Чорнага, Брыля й некаторыя вершы Панчанкі й як цяжка пракладаў дарогу да чытача А. Куляшоў сваёй цудоўнай паэмай "Варшаўскі шлях", прысьвечанай памяці яго вялікага друга А. Твардоўскага.

Рэцыдывы той застойнай пары адчувальны й сёньня. Праўдзівая, даволі няпрывабная карціна вывучэньня беларускай мовы ў агульнаэдукацыйных школах рэспублікі, якую паспрабавала закрануць на сваіх старонках газэта "Літаратура і мастацтва", некаторымі й сёньня лічыцца амаль нармальнай зьявай. Гэта пра іх калісьці пісаў адзін з чэскіх пісьменьнікаў, што хоць некаторыя зь іх знаюць шмат розных моў, але сваю ўжываюць толькі для наклейваньня марак (мова ў сэнсе "язык").

**З дакладу першага сакратара ўправы Саюзу Пісьменьнікаў БССР, Н. ГІЛЕВІЧА:** Парушэньняў прынцыпу сацыяльнай справядлівасьці ў нашым жыцьці назіраецца багата. Гэтым, перш за ўсё, і абумоўлена паніжэньне маральнасьці, пашырэньне такіх агідных зьяў, як закаранелы эгацэнтрызм, чыноўная фанабэрыя, легальнае казнакрадства, усёдазволенасьць, хцівасьць, пошласьць, цынізм і г. д. аж да адкрытага антыпатрыятызму і здрадніцтва. Нядаўна на канфэрэнцыі журналістаў Масквы быў прыведзены такі факт — цытую па газэце "Правда" (за 9. 02. 1987): "Журналисты "Московской правды" пачалі расьсьледаваньне: што такое сталічныя спецшколы і хто ў іх вучыцца? Выясьнілася: многа дзяцей кіраўнічых таварышаў. З першага класа езьдзяць на вучобу ў службовых аўтамашынах. Іншы раз гэта ня школы, а палацы з райскімі кушчамі+ фантанамі, басэйнамі. Дык вось уплывовыя таты, дазнаўшыся аб расьсьледаваньні карэспандэнтаў, спалохаліся, атакуюць рэдакцыю і МГК КПСС. Цiснуць, граюць мускуламі: "Спыніце!"

Дарэчы, каму й калі гэта прыйшло ў галаву — насаджаць у нас спэцыялізаваныя англамоўныя ці французкамоўныя школы? Якія вялікія пэдагогі й стратэгі сацыяльнага й духоўнага разьвіцьця краіны да такога дадумаліся? Ці гэта проста сацыяльна-клясавая прыхамаць мяшчанска-бюракратычнага слою, якому вельмі-ж ня хочацца быць роўным з усім народам, з "рабацягамі", якому страшэнна хочацца адрозьнівацца ад іншых прывілеяваным становішчам, у тым ліку — вельмі ўцешна думаць, што **»нашы дзеткі» не такія, як усе, нашы вучацца ў спэцыялізаванай школе, з ухілам. Ды яшчэ зь якім ухілам! Ня зь нейкім там, скажам, беларускім, купалаўска-коласаўскім, а з англійскім. Або з францускім...** Дзвесьце гадоў назад рускія класікі ўшчэнт высьмеялі падобную франкаманію — а бач ты, уваскрэсла, і вось — калі ласка — жыве!..

Адна з выяўна вострых сёньня сацыяльна-маральных праблем у нас на Беларусі — гэта нашы адносіны да сваёй гісторыі, да нацыянальнай мастацкай культуры, да роднай мовы, да духоўнай спадчыны народу. Думаецца, што гэтыя адносіны пакуль што добрага слова не заслугоўваюць. Вазьміце наша веданьне гісторыі Беларусі — зямлі, на якой жывём і патрыётамі якой быць абавязаны. Для насельніцтва рэспублікі, паколькі яно прайшло праз нашы школы+ гэта гісторыя прачынгаецца фактычна з рубяжа XX стагодзьдзя+ а што было датуль, — на працягу добрых дзесяці вякоў — амаль нічога невядома.

Адной з прычын распаўсюджанага ў Беларусі прыніжанага пачуцьця нацыянальнай годнасьці якраз і ёсьць тая сумная акалічнасьць+ што недаравальна мала кніг пра выдатныя падзеі й пра вялікіх людзей Бацькаўшчыны за цэлае тысячагодзьдзе: ад першых полацкіх і тураўскіх князёў і да нашых дзён. Вось чаму раскатурханьне гістарычнай самасьвядомасьці ў масах беларускага чытача — надзвычай актуальная задача нашай літаратуры. Трэба з прыемнасьцю адзначыць, што бадай ва ўсіх яе жанрах за апошняе дзесяцігодзьдзе адбыўся прыкметны паварот да мастацкага асэнсаваньня айчыннай гісторыі, вобразнага ўзнаўленьня яе

пэўных момантаў, значных падзей і выдатных асоб. **Пісьменьнікам як-бы нарэшце стала сорамна заставацца ўбаку ад грамадзянскага й творчага подзьвігу незабыўнага У. Караткевіча.**

Такім чынам, зрух у асьвятленьні нашай літаратурай гісторыі Беларусі намеціўся, але нам павінна быць ясна, што мы стаім яшчэ ў самым пачатку вялікай работы. Я ўжо дзесьці гаварыў прынародна й сёньня скажу яшчэ раз: калі мы напішам і апублікуем хаця-б дзьвесьце таленавітых гістарычных раманаў, аповесьцяў, п'есаў, паэмаў — тады мы, як-то кажуць, пабачым і паглядзім, якое ў нашых чытачоў будзе самаадчуваньне. Заадно глянем і на фізіяноміі сёньняшніх скептыкаў і пэсімістаў, якія ня вераць у заўтаршні дзень беларускай культуры. Пры гэтым хацелася-б падкрэсьліць, што пісаць добрыя, значныя гістарычныя творы цяжка. Апрача таленту, патрэбны вялікія веды, навукова аб'ектыўная і клясава дакладная пазыцыя. Патрэбна належная ўзброенасьць марксісцка-ленінскай мэтадалёгіяй. Марксісцка-ленінскай, а не яе абэцэдараўскай інтэрпрэтацыяй. Дарэчы, **нашым нядобразычліўцам на Захадзе лёгка біць менавіта абэцэдаршчыну і іншыя разнавіднасьці дагматызму ў гістарычнай навуцы. Але яны бясьсільныя змагацца з праўдзівым, навукова—аб'ектыўным** (*памаскоўску аб'ектыўным?* — К.А.) **асьвятленьнем гісторыі. Яны робяцца адразу абяззброенымі, таму што праўда — гэта наша зброя, я ня іх.**

...трэба ўсямерна садзейнічаць таму, каб наша мова нармальна функцыяніравала ва ўсіх сфэрах грамадзкага жыцьця, каб ёю — скажам так — не саромеліся карыстацца ўсюды і скрозь гэтак-жа, як рускай мовай. Яна выдатнеа распрацавана як мова літаратурная й гатова абслугоўваць жыцьцядзейнасьць грамадзтва на ўсіх магчымых узроўнях. Менавіта ў гэтым і заключаецца парадаксальнасьць сітуацыі. З аднаго боку — сапраўдны росквіт філялягічных навук, шматтомныя выданьні самых розных слоўнікаў, шматлікія энцыкляпэдычныя выданьні, 40-томны звод нацыянальнага фальклёру, нябывалы размах выданьня нацыянальнай літаратурнай клясыкі й многае іншае, што яшчэ гадоў трыццаць назад магло нам толькі сьніцца. І ўсё гэта, зразумела, кладзецца ў фундамэнт далейшага разьвіцьця нацыянальнай культуры. Разам з тым, — з другога боку, — усё больш прыкметнае звужэньне сфэры, у якой мы карыстаемся родным словам.

## ЦЫТАТА НА СЯНЬНЯ:

"Няма і не павінна быць дараваньня людзям, якія заплямілі сябе супрацоўніцтвам з гітлераўскімі акупантамі, з ворагамі Савецкай улады..."

З дакладу сакратара ЦК КПБ В.А. Пячэннікава на партыйным сходзе ў Саюзе Пісьменьнікаў БССР у Менску. (*Літ. і Маст., 10.7.1987 г.*)

*Пытаньне да партыйнага сакратара*: *Колькі "не павінна быць дараваньня" калябарантам Гітлера, дык* **калі й чаму гэта ваша »непамыльная родная партыя« даравала тым партыйным бальшавіцкім валадаром, што ўтварылі г. зв. пакт Рыбэнтроп-Молатаў, ды пасьля хлебам, нафтай і ўсялякім іншым дабром памагалі вашаму хаўрусьніку Гітлеру на працягу амаль двух гадоў у ягонай агрэсіі супраць вольных дзяржаваў усей Эўропы? Чаму вы сваіх роднапартыйных злачынцаў не пакаралі?**

Такі рэальны стан рэчаў і такім яго трэба цьвяроза ўспрымаць — з тым, каб не сядзець склаўшы рукі, а шукаць выйсьця са становішча, рабіць канкрэтныя захады да выпраўленьня сітуацыі. І першае, з чаго мы павінны пачаць, — гэта рашуча адкінуць той пэсымізм у паглядах на будучыню нашай мовы, які выказваюць навет некаторыя нашы калегі. Я зьвяртаюся да іх з просьбай: дарагія таварышы й сябры, усё што хочаце, — толькі не пэсымізм. З пэсымізмам мы, як-то кажуць, і зь месца не скранемся. Сацыяльны пэсымізм увогуле штука нядобрая — і не для нас. Нам патрэбна вера й толькі вера. Тым больш у такі час, калі грамадзтва знаходзіцца на гістарычным пераломе. І гэта не танны казённы аптымізм. Гэта — адзінае, на што мы маем маральнае права. На пэсымізм такога права ў нас няма. За нашымі плячамі — тысяча гадоў разьвіцьця нашай пісьменнасьці, літаратурнай мовы, самой літаратуры і ўсёй духоўнай культуры народу. Гэта прызнана ўсім сьветам. Як-жа мы, беларускія літаратары, павінны пачувацца, ведаючы, што за намі — тысячагадовы шлях пакут і барацьбы многіх пакаленьняў, ведаючы, якая вялізарная духоўная спадчына нам дасталася? Ня толькі зь якою гордасьцю мы павінны думаць пра гэта, а перш за ўсё — зь якою адказнасьцю? **Тысячу гадоў зьбіраўся, накопліваўся, нарастаў духоўны скарб народу — і цяпер нехта мае права паставіць на ім крыж? Нікому з нас, сёньня жывучых, такога права не дадзена, нікому! Ня намі пачалося й ня намі кончыцца. Наш абавязак — прадоўжыць і перадаць наступнікам, нашчадкам. І менавіта перад лёсам нашчадкаў амаральна думаць: на мой век, маўляў, хопіць, а там — хоць трава не расьці...**

Аказваецца, мы, беларускія пісьменьнікі, перш за ўсё й вінаваты ў сёньняшняй няпрэстыжнасьці нашай роднай мовы. У народзе ў такім выпадку кажуць: і б'юць, і плакаць не даюць. Тым, хто разьлічвае на наіўных і хоча зацямніць справу, адкажу зусім ясна: прэстыжнасьць беларускай мовы залежыць ня толькі ад тых, хто на ёй піша, але й ад таго, як увогуле ставяцца да яе ў грамадзтве (навет у пэрыяд так званай галоснасьці Гілевіч не асьмеліцца сказаць, што яна залежыць ад волі маскоўскага акупанта паняволенай Беларусі, — К. А.).

І яшчэ — ужо ў сувязі з праблемай маралі й маральнасьці. **Калі сёньняшні боль усёй беларускай інтэлігенцыі за сваё роднае слова некаму не баліць, калі некага зусім не хвалюе, што ў нашых гарадах ангелійскія школы ёсьць, а беларускіх няма, дык элемэнтарная маральнасьць павінна падказаць гэтаму некаму — ня сыпце соль на раны, ня можаце дапамагчы — дык хоць маўчыце.**

**ЯНКА БРЫЛЬ:** Так, нам патрэбна родная школа, патрэбен патрыятычна сьвядомы чытач, нам патрэбна законнае месца ў гісторыі братніх народаў, патрэбна здаровая, інтэрнацыянальная гордасьць сваім народам, ня горшым за іншыя ў працы, у барацьбе за сьветлыя ідэалы ленінізму, за мір і дружбу, за чалавечнасьць.

А тое, што можна выправіць — трэба рабіць неадкладна. Беларускаму і ўсесаюзнаму чытачу трэба вярнуць Алеся Гаруна, Цішку Гартнага, Усевалада Ігнатоўскага, праца якога па айчыннай гісторыі вартая навуковага перавыданьня. Дарэчы, як і "Гісторыя беларускай літаратуры" Максіма Гарэцкага.

**В. Каваленка:** Думаецца, на новым вітку грамадзкага разьвіцьця варта з глыбейшай навуковай аб'ектыўнасьцю разгледзець "нашаніўскі" пэрыяд у разьвіцьці духоўнай культуры беларускага народу. Пра гэты пэрыяд ужо сказана шмат правільнага і ў навуковых адносінах цікавага. Аднак відавочна, што й недагаворанага яшчэ шмат.

**Генадзь Бураўкін:** ...ідзе відавочная, цяжкая вызначальная агульнасаюзнай нашай братэрскай логікай тэндэнцыя на звужэньне ўжываньня беларускай мовы, а значыць і на згортваньне разьвіцьця нацыянальнай культуры.

Мне могуць сказаць: а што вы хочаце, права кожнага чалавека — выбіраць сабе месца жыхарства й мову. Калі народ адмаўляецца ад сваёй мовы — значыць, яна яму не патрэбна. Давайце ня будзем сьпяшацца з прысудам і зноў зьвернемся да лічбаў.

Перапіс 1979 году. У рэспубліцы роднай мовай лічаць беларускую 69,8 % усяго насельніцтва, рускую — 28,3 %. Роднай мовай беларускую назвалі 83,5 % Беларусаў і 16,5 % Рускіх. Валодаюць беларускай мовай 82,6 % ўсіх жыхароў рэспублікі, рускай — 81,9 %. Ці не ранавата залічыць беларускую мову ў "непэрспэктыўныя"?

...прашу вас не сумнявацца, што мае горкія й абвостраныя развагі па вельмі складаным, тонкім і балючым пытаньні, якім зьяўляецца нацыянальнае, выкліканы не нацыянальнай палітыкай у нашай дзяржаве (яна ў нас ленінская, вызначаная і акрэсьленая Канстытуцыяй СССР, праграмай КПСС, партыйнымі рашэньнямі й дакумэнтамі), а штодзённай практыкай у нашай рэспубліцы.

**Сяргей Законьнікаў:** Парадаксальнасьць сытуацыі, калі беларуская літаратура мае сёньня такі высокі аўтарытэт і прызнаньне на ўсесаюзным узроўні, а ў сябе дома ўсё-ж страчвае чытачоў і прыхільнікаў, абумоўлена ў пэўнай меры тым, што, як ні дзіўна, літаратура, а таксама іншыя гуманістычныя навукі ня ўключаны на поўную сілу ў шгматгранны працэс выхаваньня людзей. Мы ведаем, колькі непрадуманасьці, непаразуменьня ў школьных праграмах і падручніках (і з клясыкай, і з сучаснымі творамі), як нядбайна, прымітыўна выкладецца літаратура ў многіх школах, вучылішчах, тэхнікумах і навет вышэйшых навучальных установах, як і тое, што многія бібліятэкі — школьныя, дзяржаўныя, прафсаюзныя і г. д. — ня маюць падпісак на рэспубліканскія літаратурныя часопісы, што ў дзіцячых бібліятэках не хапае навет тых кніг, якія ўключаны ў праграму, што надзвычай кепска прапагандуюцца, выкарыстоўваюцца ў ідэйна-выхаваўчай, культурна-масавай рабоце творы беларускіх пісьменьнікаў.

**Анатоль Кудравец** зачытаў вытрымкі з чытацкага ліста, дасланага нядаўна ў часапіс "Нёман". Сьлесар з гораду Асіповічы выказаў свой боль і заклапочанасьць з прычыны непаважлівага стаўленьня да роднай мовы ў асяродзьдзі Беларусаў, адсутнасьці беларускіх школ і дзіцячых садоў у гарадах.Так, праблема ёсьць, і ня пісьменьнікі яе прыдумалі. Пра яе з трывогай гавораць, пішуць у рэдакцыі газэт і часапісаў, на радыё і тэлебачаньне настаўнікі, рабочыя, калгасьнікі.

**Вольга Іпатава:** Свабоднае волевыяўленьне... Але скажыце, што гэта за такі рэзкі скачок волевыяўленьня адбыўся, напрыклад, за шэсьць гадоў у выдавецтве "Народная асьвета", калі з 62 тысяч тыраж беларускага буквара ўпаў да 33 тысяч? Людзі выказаліся? Калі не — то хто і як вызначае патрэбную колькасьць? Сацыялягічныя дасьледаваньні? Попыт насельніцтва? Хутчэй за ўсё — зноў той-жа факт голага адміністраваньня, непавагі да тых, хто хацеў-бы вучыць сваіх дзяцей у школе зь беларускай мовай навучаньня.

Чытаю зараз сэрыю гістарычных кніг, выдадзеных нашымі суседзямі-Палякамі. Зь іх многае даведваюся пра ўласную культуру, таму што там, у суседзяў, хапае ўсяго — і сур'ёзных навуковых прац, разьлічаных на спэцыяліста, і бэлетрыстыкі для ўсіх, і перавыданай клясыкі й няклясыкі пра гісторыю. "Дзьве каралевы" Крашэўскага, "Каралева Ядвіга", "Як у даўняй Польшчы каралёў выбіралі". Уяўляю твары нашых выдаўцоў, калі-б прынесла кнігу з падобнай назвай. Адзіная пакуль для шырокай публікі кніга, дзе пішацца пра агромністую, неабдымную нашу гісторыю, — "Памяць пра легенды" К. Тарасава, — каб выйсьці ў сьвет, патрабавала сапраўды мужчынскай вынослівасьці.

**Кастусь Тарасаў:** Відавочна, што літаратурнае жыцьцё цесна злучана зь перабудовай. Некаторыя з прысутных тут пісьменьнікаў дзесяцігодзьдзі працавалі на перабудову. Ня ўсе дачакаліся гэтых часоў, асьветленых надзеяй. У ліку апошніх, тых, каго ўжо няма сярод нас, і Ўладзімер Сямёнавіч Караткевіч. Мноства штучных перашкод, створаных недасьветчанымі, малапісьменнымі ў гісторыі культуры асобамі, азмрочылі ягоны творчы шлях. Творчасьць Караткевіча — гэтага падзьвіжніка, сапраўднага "рыцаря без страха и упрёка", чалавека, адоранага унікальным талентам — была прысьвечана мінуўшчыне роднага народу. Ён адлюстраваў ня толькі трагічную гісторыю беларускага народу, ён выявіў тую моц народнага духу, той аптымізм, які дазволіў вытрываць усе трагічныя выпрабаваньні. Народ з павагай прыняў творы Караткевіча, яго боль, спадзяваньні, духоўнае сьвята. Таму я зьвяртаюся да пленума з наступнай прапановай: узьняць пытаньне аб прысваеньні У. Караткевічу пасьмяротна заслужанага ім 30-гадовай працай званьня "народны пісьменьнік Беларусі".

На пленуме выступіў першы сакратар управы Саюзу Пісьменьнікаў СССР Уладзімер Карпаў. Ён падтрымаў клопат беларускіх літаратараў аб становішчы й разьвіцьці роднай мовы.

Язэп Барэйка

# Ю. І. КРАШЭЎСКІ

(28.7. 1812 — 19.3. 1887)

Адам Мальдзіс свой разьдзел аб слаўных сынах беларускай зямлі — адважных падарожніках, неўтаймаваных вучоных і здольных літаратарах, "На далёкіх мэрыдыянах" — зьмешчаны ў зборніку "Падарожжа ў XIX стагодзьдзе", выдадзеным у 1969 г., пачынае гэтым вось уступам:

"Так ужо склаўся лёс Беларусі што ў мінулым стагодзьдзі многія яе лепшыя сыны не маглі працаваць на карысьць сваёй айчыны й свайго народу. Члены тайных згуртаваньняў філаматаў і філарэтаў, удзельнікі змовы Канарскага, паплечнікі братоў Далеўскіх, паўстанцы 1831 і 1863 гадоў, урэшце, першыя народнікі і першыя марксісты, яны пад прымусам пакідалі беларускую зямлю, ішлі на катаргу, у ссылку, у салдатчыну, эмігрантамі прабіраліся за граніцу.

Але — працягвае аўтар, — і на далёкіх мэрыдыянах, у сібірскай тайзе або дзікіх лясох Паўднёвай Амэрыкі, нашы землякі не сядзелі склаўшы ў бязьдзейнасьці рукі. Яны памнажалі славу сваёй радзімы, адкрываючы і дасьледуючы чужыя кантынэнты. Верныя свабодалюбівым гуманістычным традыцыям свайго шматпакутнага народу, яны несьлі свабоду іншым народам і іншым краінам. Беларусы былі заступнікамі і абаронцамі бурацкіх і казахскіх



Ю. Крашэўскі

пляменаў, амаль дзікіх амэрыканскіх індзейцаў. Беларусаў глыбока кранала гора негрыцянскага раба і зьнясіленага якута. Пазбаўленыя магчымасьці працаваць непасрэдна для суайчыньнікаў, яны працавалі для чалавецтва".

Гэтае слушнае і глыбокага зьместу цьверджаньне Адама Мальдзіса пераклікаецца ў пэўным сэнсе з пытаньнем, закранутым больш чым сто год таму вядомым беларускім этнографам, гісторыкам, эканамістам і пісьменьнікам Аляксандрам Ельскім, які ў сваім артыкуле пра Адама Міцкевіча на Беларусі, зьмешчаным у 46-м нумары польскага часапісу "Край" з 26-га лістапада 1885 году пісаў (цытуем паводля зборніка Генадзя Кісялёва "Пачынальнікі"): "Калі заходзіць гаворка пра Міцкевіча і яго сьціплае роднае гняздо, міжвольна паўстае пытаньне,. чаму гэта столькі карыфэяў айчыннай навукі і мастацтва, чаму гэтакіх Хадкевічаў, Няслухоўскіх, Рэйтанаў, Касьцюшкаў, Багушэвічаў, Манюшкаў, Міцкевічаў, Чачотаў, Кандратовічаў, Занаў, Дамэйкаў, Здановічаў, Прозараў, Барташэвічаў, Сямірадзкіх, **Крашэўскіх** і столькі-столькі іншых выдала адна зямля. Павінна гэта запраўды быць глеба ўрадлівая, калі параджае такія шчодрыя плёны!" — усклікае Аляксандар Ельскі і, зацытаваўшы ўрыўкі з твораў Поля й Сыракомлі пра гэтую "ўрадлівую беларускую глебу", дадае: "Бо старажытны й народ гэты, што насяляе разьлеглыя абшары: ад вытокаў Дняпра да Буга й Нарава, ад Вяльлі да Прыпяці — гняздо старадаўняй славяншчыны, краіна гэрояў, патрыярхальных адносінаў і ахвяраў у імя ўзьнёслых ідэалаў! Усё гэта разам узятае, — адзначаў больш чым сто год таму Аляксандар Ельскі, — зьлілося ў духу карэннага племені, прывітыя на яго гістарычным пні пабрацімчыя парасткі разрасьліся ў магутныя, цудоўныя па форме галіны, поўныя духмяных кветак і салодкіх пладоў!"

Аляксандар Ельскі (16.6. 1834 — 10.9. 1916), сын Ігуменскай зямлі, Ю.І. Крашэўскага залічае да "сыноў зямлі беларускай" не выпадкова. Будучы празаік-раманіст, пісьменьнік, публіцыст, мастак, дасьледнік гісторыі нашае дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага, побыту й вуснай народнай творчасьці беларускага народу, Крашэўскі нарадзіўся дакладна 175 год таму, 28.7. 1812 г. у Варшаве. Але паходзіў ён зь беларускага шляхоцкага роду, зь сям'і пружанскага харунжага, зь вёскі Доўгае, што ля Пружанаў. Тут правёў ён сваё дзяцінства, тут чэрпаў ён сваё натхненьне.

Як адзначае Генадзь Каханоўскі ў сваёй манаграфіі "Археалёгія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI-XIX ст.ст.", выдадзенай у 1984 г.: "Гэты край быў яму родным, і ён лічыў сваім абавязкам пісаць пра яго, захапіўся гісторыяй, мастацтвам, а пазьней этнаграфіяй і археалёгіяй".

Атрымаўшы ў Сьвіслачы першапачатковую адукацыю, а пасьля — сярэднюю ў славутай Сьвіслацкай гімназіі, Крашэўскі паступіў у Віленскі ўнівэрсытэт, які скончыў, праўда, бяз дыплёму, бо навуку спыніла колькімесячнае турэмнае зьняволеньне пасьля пачатку паўстаньня 1831 году, у якім ён браў удзел. Ня змогшы атрымаць пасады выкладчыка, Крашэўскі пасяляецца ў роднай вёсцы бацькоў, дзе й пачынае літаратурную й навуковую дзейнасьць. Жывучы ад 1833 да 1859 году на Палесьсі, Крашэўскі супрацоўнічае з польскім часопісам "Тыгоднік Пэтэрсбурскі", які ў той час выдаваўся ў Пецярбургу.

У 1841 годзе ён становіцца рэдактарам навуковага часапісу "Атэнэум", які выходзіў у Вільні да 1851 году і ў якім друкавалася шмат мясцовай інтэлігенцыі, у тым ліку Уладыслаў Сыракомля, Рамуальд Зянькевіч, Яўстафі і Канстантын Тышкевічы і іншыя, ды дзе зьмяшчаліся весткі пра помнікі матар'яльнай і духовай культуры беларускага народу, пра творы мастакоў Яна Дамеля, Францішка Смуглевіча, невядомыя матар'ялы пра беларускага археоляга, этнографа й дыялектоляга Зарыяна Даленгу-Хадакоўскага й іншых.

Часопіс "Атэнэум", выдаваны Крашэўскім, прысьвячаў шмат увагі праблемам гісторыі, культуры, грамадзка-палітычнага жыцьця галоўным чынам земляў былога Вялікага Княства Літоўскага. Значнае месца ён адводзіў творам рэгіянальных пісьменьнікаў.

Вынікам ягонае трыццацігадовае дзейнасьці было тое, што пасьля яго пераезду ў 1859 годзе ў Варшаву, яму было даручанае рэдактарства варшаўскай "Штодзённай газэты", з 1861 году — "Газэты польскай". Пару тыдняў пасьля пачатку нацыянальна-вызвольнага антымаскоўскага паўстаньня 1863 году, лібэральны рэдактар Крашэўскі вымушаны быў пакінуць Варшаву, пасьля чаго да самай сьмерці, сто год таму, у сакавіку 1887 году, знаходзіўся ў эміграцыі, галоўна ў Дрэздэне.

Як празаік, Юзаф Крашэўскі дэбютаваў у 1831 годзе. Адзін за адным выходзяць ягоныя творы: раманы і аповесьці пра ролю мастака ў жыцьці грамадзтва ("Паэт і сьвет"), цяжкую долю беларускага і украінскага прыгоннага сялянства ("Гісторыя Саўкі", "Ульяна", "Астап Бандарчук", "Хата за вёскай", "На Палесьсі"), маральны расклад шляхоцкай арыстакрацыі ("Чарадзейны ліхтар", "Залаты яблык", "Два сьветы", "Марытуры"), мінулае Польшчы, Беларусі, Літвы і Ўкраіны ("Апошнія з слуцкіх князёў", "Часы Жыгімонтаў", "Графіня Косель", "Бруль" "Стара байка", "Кароль у Нясьвіжы").

У польскай літаратуры Юзаф Крашэўскі стварыў новы тып гістарычнага раману. Хоць у галіне гісторыі Крашэўскі быў хутчэй аматарам, але ён валодаў

шырокімі й глыбокімі ведамі пра мінуўшчыну, асабліва пра XVIII стагодзьдзе, падзеі якога рупліва дасьледаваў, перагортваючы багацьце успамінаў, друкаваных крыніцаў, і ўрэшце, калі пасяліўся ў Дрэздэне, архіўных матар'ялаў. Спачатку зацікавіўся эпохай Ягайлавічаў, якую і ўвёў у сваей першай вялікай гістарычнай аповесьці "Зыгмунтоўскія часы" 1846 году. Але пазьней сканцэнтраваў сваю ўвагу на XVIII стагодзьдзі — часамі караля Станіслава Аўгуста й каралёў дынастыі Сасаў.

Да найбольш раньніх літаратурна-**краязнаўчых** нарысаў Крашэўскага належыць ягоны нарыс "Пінск і яго ваколіцы", надрукаваны ў 1837 годзе. У ім, у папулярнай форме, на канкрэтным гістарычна-краязнаўчым матар'яле, аўтар расказаў пра горад, спасылаючыся на "Аповесьць мінулых часоў", прывёў дату першай згадкі пра яго — 1097 год.

Юзаф Крашэўскі, у вадрозьненьне ад Тодара Нарбута, ня йшоў сьлепа за храналёгіяй уладараньня мясцовых князёў, а асьвятляў важныя падзеі, абмаляваў сацыяльны партрэт Пінску першай паловы XIX стагодзьдзя, калі сам мог назіраць малюнкі быту пінчукоў, гандлю, эканамічнага стану гораду.

Як адзначае Генадзь Каханоўскі ў прыгаданай манаграфіі "Археалёгія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI-XIX стагодзьдзях", "Аўтар краязнаўчага нарысу цікавіўся й мясцовай тапанімікай, гідронімамі... Як зварот да краязнаўцаў, чытаецца пажаданьне пісьменьніка пісаць дакумэнтаваныя гістарычныя нарысы."

Амаль у такой-жа манеры напісаная і праца Крашэўскага "Успаміны Палесься, Валыні і Літвы", куды ўключаны й нарыс "Пінск і яго ваколіцы". Праца гэта мае бэлетрыстычны характар. Яна была выдадзеная ў 1840 годзе ў Вільні. Побач з красамоўнымі апісаньнямі прыроды тут прыводзяцца каштоўныя весткі пра жыцьцё народу, яго заняткі, прылады працы, жыльлё, адзеньне і ежу. Пры апісаньні беларускага селяніна, аўтар ставіцца да яго зь любоўю, дае яскравыя малюнкі тагачаснага жыцьця Беларуса і спачувае яму ў цяжкай нядолі.

Наступнай працай Юзафа Крашэўскага ў гістарычна- краязнаўчай галіне была гісторыя Вільні. Аўтар пісаў ня толькі пра горад, але й пра падзеі, што зьвязвалі яго з навакольлем, із старажытналітоўскай дзяржавай — Вялікім Княствам Літоўскім.

Адначасова із Яўстафіем Тышкевічам і Рамуальдам Друцкім- Падбярэскім працаваў Крашэўскі над "Апісаньнем Барысаўскага павету", якое было зьмешчанае ў выдаваным ім часопісе "Атэнэум" за 1848 год. "Апісаньне" гэтае мае таксама краязнаўча-этнаграфічны характар. Весткі для сваіх твораў Крашэўскі ці раз браў зь вялікай бібліятэкі й архіву Яўхіма Храптовіча ў Шчорсах (дарэчы, 4.3. сёлета адзначаліся 175-ыя ўгодкі ягонае сьмерці).

Апрача названых працаў Крашэўскі прысьвяціў Беларусі шмат артыкулаў, зьмешчаных у польскім пэрыядычным друку, як прыкладна, у "Пазнанскім Літаратурным Тыднёвіку", у часопісе "Музэум домовы" й іншых. Ён пакінуў таксама невялікі гістарычна-краязнаўчы нарыс і пра Берасьце. Ён ня толькі выкарыстоўваў, але і аналізаваў гістарычныя крыніцы. Вынікам ягоных дасьледваньняў мінуўшчыны беларуска-летувіскх земляў была праца "Старажытная Літва. Яе гісторыя, законы, мова, вера, звычаі, песьні...". Цікавіла Крашэўскага й праблема паходжаньня Славянаў, якія, на яго думку, пад узьдзеяньнем Кельтаў і пад іхным націскам прыйшлі з захаду.

Пра Крашэўскага-археоляга ў гістарычнай літаратуры пішуць мала. Крыху ўвагі ў нас прысьвяціў яму ў прыгаданай манаграфіі Генадзь Каханоўскі. Шмат месца старажытнасьцям Беларусі Крашэўскі адвёў у сваей рабоце "Мастацтва ў Славян", якая выйшла ў 1860 годзе. Ён марыў стварыць карту славянскіх старажытнасьцяў, а таксама плянаваў падрыхтоўку археалягічнага слоўніка. Хаця ён ня быў археолягам—практыкам, аднак увесь час сачыў за дасьледваньнямі й публікацыямі беларускіх гісторыкаў і археолягаў Кіркора, Тышкевіча, Гаворскага, Плятара, Зянькевіча. Многім зь іх даваў магчымасьць выступіць у часопісе "Атэнэум", які выдаваў.

Вакол Крашэўскага групаваліся ня толькі пісьменьнікі, але й вучоныя краю. Як мастак, Крашэўскі маляваў тыпы беларускіх сялянаў, беларускія пэйзажы. Некаторыя зь ягоных рысункаў можна знайсьці ў 3-м томе "Маляўнічай Расеі" Пятра Сямёнава -Цян-Шанскага, які выйшаў у 1882 годзе.

Літаратурная, навуковая й выдавецкая спадчына Юзафа Ігната Крашэўскага магла-б скласьці 600 тамоў. Шмат зь іх пасрэдна ці беспасрэдна адносіцца да Беларусі, беларускага народу. Пажадана было-б, каб ёю больш зацікавіліся нашыя спэцыялісты. Значная частка яе магла-б увайсьці ў скарбніцу беларускае культурнае спадчыны.

. . . . . . . . . . . . . . . .

**ЛІТАРАТУРА:** Апрача ягоных уласных твораў, выданых у Варшаве у 1896-98 гг., »Powieści historyczne«, 2 wyd., т. 1-78, і ў расейскім перакладзе: Собр. Соч., кн. 1-52, СПб., 1915, гл. ГОРСКИЙ И. К. "Польский исторический роман и проблема историзма", Москва, 1963; »Józef Ignacy Kraszewski. Zarys bibliograficzny«, Kraków, 1966; А. Мальдзіс, "Падарожжа ў XIX ст.", (З гісторыі беларускай літаратуры й культуры), Выд. "Народная Асьвета", Мн., 1969, б. 130; "Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя", т. 6, Мн. 1972, б. 111; Г.В.Кісялёў (укладальнік) "Пачынальнікі" (З гісторыка- літаратурных матар'ялаў XIX ст.), Мн., Выд-ва "Навука і тэхніка", 1977, бб. 327-366; Г.А. Каханоўскі "Археалёгія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI- XIX стст." Мн. "Навука і тэхніка", 1984, бб. 61-64 і іншыя; В.К. Бандарчык, "Гісторыя беларускай этнаграфіі", Выд. "Навука і тэхніка", Мн., 1964, бб. 51-53; П.П. Семенов-Тян- Шанский, "Живописная Россия", т. 3, ч. 1, "Литовское Полесье", ч. 2, "Белорусское Полесье", СПб., 1882.

В.Сянькевіч

# ДА 175-ГОДЗЬДЗЯ АДНАЎЛЕНЬНЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

Аднаўленьне гэтае неад'ёмна зьвязанае з вайной 1812 году, каторая пачалася ў ноч на 24-га чырвеня, калі вялізарная на тыя часы француская армія, т. зв. "Вялікая армія", перапраўілася цераз пагранічны Нёман і ўступіла на тэрыторыю Расейскай імпэрыі. Зь першых-жа дзён землі былога Вялікага Княства Літоўскага сталіся арэнай ваенных дзеяньняў.

Як ведама, савецкая гісторыяграфія, а за ёй і беларуская савецкая гістарычная навука, лічаць вайну Напалеона супраць Расеі вайной "айчыннай". У ўнівэрсальнай "Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі", напрыклад, яна так і фігуруе: "Айчынная вайна 1812" (гл. т. 1. бб. 172-175). "Айчыннай" называе яе і пісьменьнік К. Тарасаў у сваёй цікавай кнізе "Память о легендах: Белорусской старины голоса и лица", выданай у 1984 г. Тарасаў у многім зусім пановаму глянуў на гістарычны працэс беларускага народу, у тым ліку й на вайну 1812 г. на Беларусі.

Пра савецкую інтэрпрэтацыю вайны 1812 г. на Беларусі, пра тое, чым у сапраўднасьці была яна наогул, а для беларускага народу ў прыватнасьці, мы ўжо пісалі раней (гл. наш артыкул "Вайна 1812 году й Беларусь" у "Зважай" нр. 4(24) 1981 і нр. 1(25) за 1982 г.). Тут прыгадаем толькі, што цьверджаньні савецкіх аўтараў аб тым, што, маўляў, Расея сталася "нявіннай ахвярай напалеонаўскай агрэсіі", што вайна супраць Напалеона сталася "народнай", "айчыннай", вайной усіх народаў Расейскае імпэрыі, улучна з народам беларускім, — неабгрун- таваныя і тэндэнцыйныя.

"Айчыннай" вайной яна не магла быць ані для Беларусаў, ані для іншых нерасейскіх народаў Расейскае імпэрыі ўжо хоць-бы таму, што ўсе яны міжволі апынуліся ў яе рамках, стаўшыся ахвярай падбою. Яны не маглі ўважаць Расею сваей радзімай, бо для іх яна была агрэсарам, які іх панявольваў. Довадам гэтага могуць паслужыць шматлікія ўзброеныя антымаскоўскія паўстаньні, яшчэ да паходу Напалеона, у розных частках Маскоўскае імпэрыі, як, прыкладам, на Каўказе, у Сярэдняй Азіі, Польшчы й Беларусі з мэтаю здабыцьця незалежнасьці сваіх краінаў.

Хвальшывыя і тэндэнцыйныя таксама цьверджаньні савецкай гістарыяграфіі адносна т. зв. "нацыянальна-вызваленчай барацьбы" беларускага народу супраць "напалеонаўскіх інтэрвэнтаў", ягонага ўдзелу ў вайне 1812 году і гэтак званай "разгорнутай актыўнай партызанцы" супраць напалеонаўскіх войскаў. Бясспрэчным фактам ёсьць тое, што Беларусы бралі ўдзел у змаганьні супраць Напалеона. Як паказаў К. Тарасаў у прыгаданай кнізе, на 25 пяхотных дывізіяў расейскае арміі аж 16 былі ўкамплетаваныя Беларусамі. Беларускі народ, што ў 1811 годзе складаў дзясятую частку 40-міліённага насельніцтва імпэрыі, пастаўляў у рэгулярнае войска да 15% рэкрутаў. К 1812 г. у расейскай арміі было больш чым 220 тысяч Беларусаў. Але-ж яны апынуліся там у **прымусовым** парадку, а не дабраахвотна!

Ф. Энгельс, на якога так часта спасылаюцца савецкія аўтары, у сваім артыкуле, надрукаваным у расейскім часопісе "Сацыял-Дэмакрат" у 1890 г., (часапіс выдавалі ў Жэневе Плеханаў і Аксэльрод) акрэсьліў вайну 1812 г. як вайну двух імпэрыялізмаў за ўладу над сьветам, заключным этапам яе. Абодва яны, - кажа Энгельс, - выявіліся заслабымі і, ня здолеўшы падзяліць сфэры ўплываў, трапілі ў ваенны канфлікт.

Іншая справа, што паход Напалеона на Расею ўзбудзіў сярод шматлікіх народаў надзею на вызваленьне спад маскоўскага панаваньня. Гэтыя надзеі стараўся выкарыстаць Напалеон. Яго палітычныя пляны знайшлі таксама водгук і падтрыманьне між кіруючых пластоў тагачаснае Беларусі. Таму на гэтым пытаньні спынімся крыху шырэй.

Пачнем з 1975 году, бо ў гэным годзе, як вядома, Прусія, Расея і Аўстрыя праводзяць трэці й апошні падзел Рэчы Паспалітай: фэдэратыўнай дзяржавы, у якую аб'ядналіся ў выніку Люблінскай вуніі 1569 году Польшча й Вялікае Княства Літоўскае. Расея забірае заходнюю частку Беларусі, сучасную Летуву й Заходнюю Валынь, а таксама Курляндзкае герцагства. Такім чынам Беларусь трапляе ў склад Расейскай імпэрыі. У гісторыі беларускага народу пачынаецца новы пэрыяд, такі пэрыяд, калі з аднаго боку ўводзіцца русіфікацыя краю, а з другога, — пры падтрымцы царскае ўлады, — узмацняецца палянізацыйны працэс.

Аднак у гэным самым часе, у Заходняй Эўропе, адбываюцца вялікія перамены: выбухае Француская рэвалюцыя, якая пашырае ідэалы свабоды паняволеных народаў і вольнасьці. Да ўлады даходзіць Напалеон Банапарт, які маланкава падпарадкоўвае сабе амаль усе заходнеэўрапэйскія краіны й падрыхтоўвае паход на ўсход. У Лямбардыі, пад камандай генэралаў Князевіча й Рымкевіча, творыцца беларускі, званы ў той час літоўскім, легіён. Стаўка эмігрантаў зь Вялікага Княства Літоўскага да Французаў і страх перад магчымым паўстаньнем на занятых землях непакоіць расейскія ўлады. Каб не дапусьціць да гэтага, ды з мэтай прыцягнення насельніцтва на свой бок, Расея пачынае больш талерантную, больш памяркоўную палітыку на беларускіх землях. Гэта назіраецца асабліва пасьля сьмерці Кацярыны II-й і Паўла I-га.

Пасьля няўдачаў стварыць антыфранцузкую кааліцыю, цар Аляксандар I-шы хапаецца за іншую палітыку, мяняючы ейны курс. Ён наладжвае сувязь зь беларускім магнатам Міхалам Клеафасам Агінскім, вядомым кампазытарам і дзеячом Вялікага Княства Літоўскага. Агінскі нарадзіўся ў 1765 годзе ў Гузаве, што каля Варшавы, але ён паходзіў із старадаўняга беларускага магнацкага роду. З 1789 году Агінскі быў надзвычайным пасланьнікам у Галяндыі. Ён падтрымаў Канстытуцыю 3-га мая 1791 году. Пасьля перамогі Таргавіцкай канфэдэрацыі, ён эміграваў у Прусію. У час антымаскоўскага паўстаньня 1794 году пад кіраўніцтвам нашага земляка Тадэвуша Касьцюшкі,

Агінскі ўваходзіў у склад паўстанскай улады ў Вялікім Княстве Літоўскім, на свой кошт сфармаваў батальён конных егараў, якім камандаваў у некалькіх бітвах з маскалямі. Двойчы із сваім адзьдзелам ён спрабаваў прабіцца на Меншчыну, каб падняць там паўстаньне, але быў адбіты. Пасьля апаразы паўстаньня Агінскі эміграваў. У 1802 годзе вярнуўся на бацькаўшчыну й жыў у маёнтку Залесьсе каля Смаргоні.

У красавіку 1811 году адбываецца сустрэча Міхала Клеафаса Агінскага з царом Аляксандрам І-м. Наш магнат пабачыў добрую нагоду, каб адбудаваць Вялікае Княства Літоўскае. У час спатканьня ён прапануе цару аднавіць гістарычную Літву, каб супрацьставіцца плянам Напалеона. Да супрацоўніцтва Агінскі прыцягвае іншых дзеячоў Вялікага Княства Літоўскага, як князя Друцкага-Любецкага, Казіміра й Людвіка Плятэраў, Грабоўскага, Ваўрэцкага і іншых.15-га травеня таго-ж 1811 году Агінскі перадае цару Аляксандру І-му асьцярожна зрэдагаваны мэмарыял, у якім дамагаецца выдзяліць Вялікае Княства Літоўскае ў складзе Віленскай, Горадзенскай, Ковенскай, Менскай, Віцебскай, Магілёўскай, Кіеўскай, Падольскай, Валынскай губэрняў, Беластоцкай вобласьці і Тарнапольскай акругі. Цар аднак не сьпяшаецца й мэмарыял Агінскага адкідае.

Але Міхал Клеафас Агінскі не здаецца. Ён рыхтуе новы праект, у якім дамагаецца ўжо і ўтварэньня арміі Вялікага Княства Літоўскага, як аўтаномнай адзінкі ў рамках Расейскай імпэрыі. Аляксандар І-ы баіцца аўтаноміі ВКЛ і ня рупіцца адабрыць пляны Агінскага.

3-га лістапада 1811 году Агінскі, падтрыманы беларускімі магнатамі й шляхтай, перадае расейскаму цару новы мэмарыял у справе аўтаноміі ВКЛ у выглядзе царскага "указу". Паводля гэтага праекту, ВКЛ мелася быць самастойнай дзяржавай, аб'яднанай з Расеяй дынастычнай вуніяй. Усе ўрадавыя пасады займалі-б толькі грамадзяне Вялікага Княства. Існавала-б асобная Рада Стану і Рада Міністраў ВКЛ. Мела-б быць асобная вялікалітоўская армія. Прадугледжвалася таксама й асобная канстытуцыя, праект якое Агінскі хутка падрыхтоўваў.

Варты ўвагі той факт, што ў канстытуцыі адноўленага ВКЛ прадугледжвалася скасаваньне прыгону (паншчыны). Цар Аляксандар І-ы ня ўсьпеў ды й не сьпяшаўся рэагаваць на апошнія мэмарыялы Агінскага. Ня гледзячы на гэта, беларускія дзеячы не трацілі надзеі, што ўрэшце цар адновіць беларускую дзяржаву. Але надыйшоў 1812 год і паход Напалеона на Расею.

1-га ліпеня Напалеон Банапарт падпісвае ў Вільні дэкрэт ці загад аб утварэньні Часовага ўраду ВКЛ — урадавага воргану адміністрацыйнага кіраваньня краінай. У склад фактычна адноўленага ВКЛ уваходзілі наступныя тэрыторыі: Віленшчына, Горадзеншчына, Беласточчына й Меншчына. Віцебская й Магілёўская губэрні пакуль што тварылі асобную адміністрацыйную адзінку — Беларускую губэрню, губэрнатарам якое быў назначаны маркіз Пастэр, тойсамы Пастэр, катораму Напалеон, пакідаючы Віцебск перад далейшай дарогай на ўсход, сказаў 1-га жніўня 1812 году: "Глядзіце на Беларусь, як на хаўрусьніцу, а не як на заваяваны край". Паза межамі ўзноўленай дзяржавы заставалася таксама й зямля Жамойцкая ды Смаленшчына.

Паводля дэкрэту, адноўленае ВКЛ павінна было мець зусім асобны ад Варшавы ўрад, што ўстрывожыла Палякаў. Утвораны Напалеонам Часовы ўрад, званы афіцыйна Камісіяй часовае ўправы, складаўся з наступных асобаў: старшыня Камісіі — беларускі магнеат, маршалак надворны літоўскі Станіслаў Солтан, сябры — Кароль Прозар, граф Язэп Серакоўскі, князь Аляксандар Сапега, гр. Францішак Ельскі, гр. Аляксандар Патоцкі й рэктар Віленскага унівэрсытэту Ян Сьнядэцкі.

Сядзіба ўраду знаходзілася ў Вільні, якая была пад кіраўніцтвам мэра ці прэзыдэнта, чатырох дараднікаў і муніцыпальнае рады з 12-ці радных. Адначасна ў горадзе Вільні была сфармаваная нацыянальная гвардыя з двух батальёнаў. На рэшце тэрыторыі ВКЛ уводзілася жандармэрыя.

(*Заканчэньне ў наст. нр.*)

## ПАМЁР АЛЯКСАНДАР КОЙКА

1-га ліпеня сёлета, з прычыны сэрца, адыйшоў на вечны супачын лейт. А. Койка, пакінуўшы ў смутку жонку Лёнгіну, дачку Эву, сына Робэрта й сястру Соню (жонку Васіля Арцюшэнкі). Усе жывуць у Саўт Рывэр, Ню Джэрзі.

Падчас апошняй вайны нябожчык служыў у 4-й роце 13-га батальёну, што змагаўся супраць бальшавіцкіх бандаў, якія рабавалі беларускае жыхарства ды мардавалі тых, хто быў супраць іх. Пасьля эвакуацыі зь Беларусі, батальён змагаўся на ўсходнім фронце. А. Койка, пасьля вайны, апынуўся ў беларускім абозе Ватэнштэт, а выехаўшы ў Англію, там жаніўся.

У 1957 г. пераяжджае ў Злучаныя Штаты, Саўт Рывэр, дзе ўжо ўладзіліся бацькі й сястра. Нябожчык браў актыўны ўдзел у працы Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, быў сьцяжным вэтэранскага сьцягу.

4-га ліпеня пахавалі яго ў Саўт Рывэры на могільніку Вашынгтон Манумэнтал. Беларуска-амэрыканскія вэтэраны нізка схіляюць галовы ў пашане Нябожчыка. Няхай Яму сьняцца палескія нізіны.

*Сяргей Гутырчык*

## *МІХАСЮ СІЛЬВАНОВІЧУ — 82.*

*Сёлета 14-га ліпеня, пасьля багаслужбы ў царкве ў Гайланд Парку, сям'я Аляксандра Сільвановіча ўрачыста адзначыла 82-я ўгодкі ад нараджэньня бацькі, дзеда й прадзеда Міхася Сільвановіча. У парафіяльнай залі, за сталамі із стравамі й напіткамі сабралася сям'я й прыяцелі юбілянта, віншавалі яго й зычылі яшчэ доўгіх гадоў жыцьця.*

*Міхась Сільвановіч ня служыў у войску й не зьяўляецца вэтэранам, але шмат памог як фінансава так і працай пры будове помніка Гэроям Беларусі ў Іст Брансвік. Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў дзякуе яму за працу й жадае пражыць яшчэ шмат гадоў.*

*С. Пчала*

## ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Ад канца травеня да пачатку жнівеня сёлета атрымана на "Зважай": Ч. Найдзюк — 6.50 дал., К. Акула (з продажы) — 12.00, Янка Азарка — 13.00, М. Каранеўскі — 6.50, Я. Місюль — 6.50, А. Балкоўскі — 6.50, Л. Норык — 6.50, М. Януш — 6.50, С. Гутырчык (з продажы) — 63.70. *Разам — 127.70. Усім вялікае дзякуй.*